# Сталін.

**Сталін—любымі вучань Ільліча. Сталін—Ленінец на працягу двух дзясяткаў гадоў, Сталіна павінна ведаць уся сялянская моладзь.**

*Язэп Вісарыонаў Джугашвілі*, якога мы зараз ведаем пад прозьвішчам *Сталін*, радзіўся ў 1879 г. у грузінскай пролетарскай сям'і. (Бацька—шавец, матка—краўчыха). Калі яму адбылося 13 год, бацькі аддалі ў Тыфліскую духоўную сэмінарыю. Малады Сталін, аднак, цікавіўся далёка ня тымі рэчамі, якія яму чаўплі ў сэмінарыі. Ён становіцца на чале рэволюцыйных гурткоў вучнёўскай моладзі. Начальства сэмінарыі, бачачы, што Сталін ня будзе папом, а бунтаром-рэволюцыянэрам, у 1898 годзе яго выключаюць з сэмінарыі. Сталін—увесь прасягнуты ідэяй барацьбы за соцыялізм, за інтарэсы працоўнага люду.

Улетку 1898 г. ён уступае ў шэрагі тыфліскай соцыял-дэмократычнай організацыі, і з гэтага часу цалком аддаецца партыйнай рабоце.

У канцы 1901 г. ахранка хацела арыштаваць Сталіна, але ён кінуў Тыфліс і апыніўся ў Батуме. У гэтым вялізарным горадзе, ён організоўвае рабочых, якія ў пачатку 1902 г. ўтворылі паўстаньне. За гэта паўстаньне Сталіна, як організатара садзяць за турэмную рашотку. Дзякуючы адсутнічаньню фармальных улічэньняў у гэтай справе—Сталін зноў на воле, Сталін зноў у Тыфлісе. Папрацаваўшы тут крыху, Сталін узноў пападае ў лапы царскіх слуг, якія высылаюць яго ў далёкую мясьцовасьць Усходняй Сібіры. Сталін ня мысьліць быць адгароджаным ад таго пачатку рэволюцыйнага жыцьця, якое ўсюды было чутно, і па дарозе ў ссылку Сталін уцякае з сьцен этапнай турмы. Прыехаў у Тыфліс—і зноў за ранейшую працу. Да гэтага часу адзіная соцыял-дэмократычная рабочая партыя раскалваецца на большавікоў і меншавікоў. Многія соцыял-дэмократы ня ведалі, з кім ісьці, ці з Ленінным, ці з яго ворагамі. Сталін і тут паказаў сваю адданасьць пролетарскай рэволюцыі.

У 1905 г. калі ўсюды адчувалася рэволюцыйнае негадаваньне да царызму, у гэты час, ва ўсю сваю веліч і вымалёўваецца жалезная фігура большавіка—Сталіна. Ува ўсёй Грузіі—ён адпаведны за рэволюцыйную работу: рэдагуе нелегальную большавіцкую часопісь „*Барацьба*“, не забываецца, таксама, і пра Баку—пра вядомы цэнтр прамысловасьці Каўказу.

У сакавіку 1908 г. Сталіна арыштоўваюць за прыналежнасьць к Бакінскому камітэту Партыі і высылаюць на 2 годы ў Сібір. Сталін набыў практыку уцякаць і ў Чэрвене 1909 году бяжыць у Ленінград—з Ленінграду ў Баку, туды дзе яго чакалі рэволюцыйныя масы.

У Вясну 1910 г. Сталіна зноў арыштоўваюць і шлюць у тую самую Сібір, толькі ўжо на 5 год.

У вясну 1911 г. Сталін ідзе пехатою з Сібіры ў Ленінград. Папрацаваўшы тут у газэце „*Звезда*“—прыблізна праз паўгода Пятра Чыжыкава (так зваўся тады Сталін) вязуць царскія прыслужнікі яшчэ раз у тую самую Сібір, Валагодзкую губэр. Не пасьпелі валагодзкіе чыноўнікі агледзець свайго старога знаёмца, як Сталіна і сьлед прастыў. Ён апынуўся заграніцай, у Францыі, дзе знаёміцца з *т. Леніным.*

Не сядзіцца Сталіну і заграніцаю. Сталін прыяжджае ў Расію. У 1912 г. яго зноў цапаюць жандармскія лапы і садзяць за рашотку турмы. Завезьлі Сталіна аж у Нарыманскі край—далёка на Сібір. У верасьні таго-ж году Сталін пакідае турэмныя замкі й бяжыць у Кракаў да Ільліча.

Зноў за працаю ў Расіі, а працы шмат. У лютым 1913 г. ў Ленінградзе быў наладжан літаратурны вечар „*Правды*“. Зусім нечакана наскочыла поліцыя й схапіла *Сталіна*.

Сталін—у Тураханскай краіне, зноў у палоне. Адгэтуль Сталіна выпусьціла на волю Лютаўская рэволюцыя. З гэтага часу, Сталін вядзе ўпартую барацьбу з часовым правіцельствам Керэнскага.

У часы грамадзянскай вайны Сталін адзін з організатараў Чырвонай Арміі.

У сучасны момант т. Сталін—гэнэральны (*галоўны*) сакратар Цэнтральнага комітэту РКП, член Прэзыдыуму Ц. В. К. СССР і член Прэзыдыуму ВЦВК.

*Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі*

# МАЛАДЫ АРАТЫ

**Орган ЦК ЛКСМБ.**

Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

Менск | **№ 2** | 1925 г.

## Гутарка „Маладога Аратага“ аб політыцы.

### На пленуме Комінтэрну.

Комуністычны Інтэрнацыянал праз кожныя два гады склікае свае зьезды. А між зьездамі для вырашэньня найбольш важных пытаньняў склікаюцца пашыраныя пасяджэньні Выканаўчага Комітэту Інтэрнацыяналу. На гэтыя пасяджэньні склікаюцца ня толькі сябры Выканаўчага Комітэту, але цэлы шэраг і другіх таварышоў.

На гэтых днёх у Маскве і адбыўся такі пашыраны пленум Комінтэрну. Гэты пленум разабраў вельмі важныя пытаньні і адно з іх—гэта пытаньне аб тым, як павінны збудаваць сваю працу комуністычныя партыі розных краін для таго, каб весьці сталую бальшавіцкую працу, каб няўхільна ісьці па ленінскім шляху.

У капіталістычнай Эўропе зараз такое становішча: буржуазія ўмацавала свае позыцыі. Ёй удалося з дапамогаю меншавікоў адцягнуць момант рэвалюцыі, крыху аслабіць шэрагі рэволюцыйнага пролетарыяту.

Галоўнае заданьне зараз—выкарыстаць гэты час перадышкі да наступнага пагоршаньня становішча ў капіталістычных краінах для таго, каб загуртаваць як мага больш сілы, адарваць рабочых ад меншавікоў і аб'яднаць іх пад сьцягам комуністычнай партыі.

І другое заданьне—гэта самі-ж комуністычныя партыі павінны аслабаніцца ад астаткаў правых, якія яшчэ дзе-колечы засталіся і прабуюць павярнуць лінію компартыі ўправа. Вось гэтыя пытаньні і разглядае пленум Комінтэрну. Ён установіць для кожнае компартыі програму працы і плян бліжэйшай дзейнасьці.

### Выбары прэзыдэнта ў Нямеччыне.

У Нямеччыне некалькі дзён таму назад адбываліся выбары прэзыдэнта. Стары прэзыдэнт соцыял-дэмократ Эбэрт нядаўна памёр. На месца яго было выстаўлена каля дзесяці кандыдатаў. Кожная партыя мела свайго кандыдата. Выставілі свайго кандыдата і нямецкія комуністыя. Яны выставілі рабочага Тэльмана, сябра прэзыдыуму Комінтэрну і сябра Цэнтральнага Комітэту Компартыі Нямеччыны.

Комуністыя выстаўляюць свайго кандыдата не для таго, каб пасадзіць на прэзыдэнцкае месца комуністага. Комуністыя разумеюць, што калі ўлада знаходзіцца ў руках капіталістых і памешчыкаў, комуністых у прэзыдэнты ня выберуць ніколі.

Яны ведаюць ,штс комуністыя стануць на чале ўлады толькі пасьля перавароту, пасьля таго, калі будзе скінута ўлада памешчыкаў і капіталістых.

Пакуль-што комуністыя ідуць на выбары для таго, каб паказаць рабочым на хлусьню і ашуканства, з якім прыходзяць да іх прадстаўнікі капіталістых і іх слугі меншавікі.

Вынікі выбараў гэткія: кандыдат нацыяналістых, гэта значыць, найбольш правая частка буржуазіі, атрымала больш 10 мільёнаў галасоў, меншавікі атрымалі 7 мільёнаў, а комуністыя атрымалі 1, 800,000. У гэтых выбарах прымала ўдзел 27 мільёнаў.

Гэтыя выбары былі не канчатковыя; дзеля таго, каб прайсьці ў прэзыдэнты, патрэбна было атрымаць ня менш 13.500.000 галасоў (г. з. крыху больш палавіны).

Паўторныя выбары адбудуцца ў красавіку. Магчымы два выпадкі: ці пройдзе кандыдат нацыяналістых, ці калі аб'яднаецца некалькі буржуазных партый разам з меншавікамі, то можа прайсьці і меншавік.

Розьніца будзе невялікая—і адзін і другі будуць сумленна служыць капіталістым і памешчыкам.

### Барацьба за адзінства прафэсыянальнага руху.

Прафэсыянальныя саюзы ўва ўсім сьвеце згуртаваны ў двух міжнародных аб'яднаньнях — у інтэрнацыянале меншавікоў, які называецца Амстэрдамскім (затым, што знаходзіцца ў Амстэрдаме) і інтэрнацыянале Чырвоных Профсаюзаў, які знаходзіцца ў Маскве.

Зараз вядзецца комуністымі вельмі вялікая кампанія за аб'яднаньне абудвых інтэрнацыяналаў у адзін інтэрнацыянал профсаюзаў. Меншавікі вельмі баяцца гэтага аб'яднаньня, бо калі аб'яднаньне адбудзецца, то тады кіраваньне вельмі скора пяройдзе ў рукі левых.

Але за справу аб'яднаньня зараз змагаюцца разам з намі і ангельскія саюзы, якія знаходзяцца сябрамі Амстэрдаму.

Хутка ў Лёндоне будуць адбывацца перамаўленьні паміж прадстаўнікамі профсаюзаў Савецкага Саюзу і ангельскіх профсаюзаў па пытаньню, якім чынам дабіцца як найхутчэйшага аб'яднаньня профэсыянальных саюзаў.

### Зьверскае забойства польскім урадам двух рэволюцыянэраў.

Яшчэ адно зьверства ўпісалі польскія ахраньнікі ў гісторыю.

На мяжы Савецкага Саюзу яны забілі ўжо абмененых былых двух польскіх афіцэраў, якія прымалі удзел у організацыі ўзрыву варшаўскай цытадэлі т. т. Вечаркевіча і Багінскага.



Тыя, хто забіў Багінскага і Вечаркевіча.

Забілі іх у вагоне за некалькі хвілін да перадачы. Забойцамі зьяўляюцца польскія чыноўнікі пры удзеле паліцыі і мясцовага ваяводы.

Рабочыя Менску адказалі дэмонстрацыяй протэсту. На гэтай дэмонстрацыі яны вымагалі, каб Савецкі урад патрабаваў адказу за забойства двух нашых таварышоў, за гэты нявіданы яшчэ выпадак зьверства.

## Заходняя Беларусь.

### Народная помста.

Народная помста разгараецца з кожным днём усё болей і болей. Страціўшы цярплівасьць, ахопленыя справядлівам гневам, сяляне Зах. Беларусі пачынаюць ня толькі паліць асадніцкія і абшарніцкія маёнткі, забіваць ненавісных паліцыянтаў і жандармэрыю, але чыняць бойкі паводлуг усіх правіл вайны, нападаючы на цягнікі і нават на ўзброеных з ног да галавы вышэйшых прадстаўнікоў окупацыі.

Дзікія польскія каты могуць давясьці беларускае сялянства яшчэ да больш жорсткіх выступленьняў, да пагалоўнай разьні ўсіх абшарнікаў і асаднікаў і ненавісных прадстаўнікоў польскай улады на „Крэсах“. У моры крыві можа быць затоплена няшчасная, змучаная Заходняя Беларусь.

Орган Комуніст. Партыі Зах. Беларусі „*Чырвоны Сьцяг*“ № 2 (39) у сваім артыкуле „Народная помста“ перасьцерагае працоўныя масы ад такой провокацыі.

Каб пазбавіцца ракавых для сябе скуткаў справядлівага народнага гневу і помсты, польскі буржуазны урад хоча спровокаваць паўстаньне народных мас цяпер, сягоньня, хоча крывёю лепшых сыноў падняволенай Беларусі заліць „Крэсы“, хоча выклікаць паўстаньне бяз часу і задушыць яго.

Замест пабітага, асьмеенага пад Лунінцом цывільнага ваяводы Даўнаровіча, польскі урад адразу назначае на „Крэсы“ гэнэралаў.

Замест трусьлівае паліцыі, якая здольна гвалтаваць толькі безаружных і ў страху разьбягаецца перад нялічнымі партызанскімі атрадамі, прысылаецца на „Крэсы“ адборнае войска.

Замест цывільных судоў—суды палявыя і расстрэлы непавінных сялян.

Выняткова ваенны стан ужо фактычна ўведзены на Беларусі і Украіне.

Ужо ўсё зроблена і падрыхтована да таго, каб з крываждаднаю, вар'яцкаю злосьцю перабіць нялічныя адважныя паўстанцкія атрады і каб адначасна з гэтым пусьціць кроў безбаронным сялянам Заходняй Беларусі і Украіны.

Дэлегацыі асаднікаў з „Крэсаў“ на чале з ротмістрам Пухальскім ужо вымагаюць ад ураду афіцыяльнага выняткавага стану,а калі ён на гэта „ня згодзіцца“,—„пагражаюць“ распачаць грамадзянскую вайну, выслаўшы ў Польшчу сваіх бацькоў, жонак і дзяцей.

Гэта ўжо адкрыты вызаў. Гэта ўжо нічым няпрыкрытая провокацыя, якую пачынаюць асаднікі, а польскі урад само сабою дае згоду на ўвядзеньне вайсковага стану ў „некаторых“ паветах.

Мы добра ведаем, што значыць гэтае ў „некаторых“ паветах.

„Таварышы рабочыя і сяляне! Не паддавайцеся панскай і асадніцкай провокацыі! Сучасны момант не такі яшчэ, каб можна было даць рашучы бой окупантам.

Наша партыя, якая ўвабрала і організуе ў сваіх радох усе найбольш вытрыманыя і баявыя, усе найбольш сьвядомыя элемэнты рэволюцыйнага сялянства Беларусі, яшчэ ў ліпні месяцы гэтага году прадбачыла крывавыя пляны польскага ураду і шляхты. Яна ўжо тады заклікала ўсё сялянства да рэволюцыйнае дысцыпліны і вытрыманасьці, да організаванае штодзённае барацьбы з окупантамі. Але, разгледзеўшы пытаньне аб паўстаньні, наша партыя прышла да пераконаньня, што паўстаньне сягоньня, паўстаньне зараз-жа было-б гібельным для справы рэволюцыі, бо ў гэтым паўстаньнімы згубілі-б усе найбольш рэволюцыйныя элемэнты вёскі і не дабіліся-б пабеды. Не дабіліся-б пабеды дзеля таго, што пры сучасным становішчы ў Польшчы няма пэўнасьці ў тым, што нас рашуча падтрымаюць польскія рабочыя і сяляне.

І дзеля гэтага наша партыя лічыць, што чарговаю задачаю ўсіх рэволюцыйных рабочых і сялян нашага краю зьяўляецца падрыхтоўка і організацыя сваіх сіл да рашучай барацьбы.

Тых, хто хапаецца ўжо сягоньня за аружжа, хто ахоплены справядлівым гневам і помстаю, усіх сьмелых і адважных мы клічам у свае рады. Гуртуйцеся навакол чырвоных сьцягаў нашае партыі, не паддавайцеся на провокацыю паноў!



У нас. У паноў.

Тады, калі будзем моцнымі, тады, калі прыдзе час паўстаньня,—мы паклічам вас у бой і з дапамогаю рэволюцыйных рабочых Украіны, Польшчы і рабочых і сялян Саюзу Савецкіх Рэспублік прагонім навекі-вечныя окупантаў з нашае зямлі.

А цяпер—да вытрыманасьці, да організованасьці, да цьвёрдасьці і рэволюцыйнае дысцыпліны!“

Але бяда ў тым, ці здолее Ком. Партыя Зах. Беларусі стрымаць гэтую агнёвую плынь паўстаньня.

Народны гнеў ня можа і ня хоча лічыцца ні з якой лёгікай, а што будзе далей—пакажа час.

Адно трэба заўважыць пры сканчэньні агляду, што ў гэтых стыхійных чыннасьцях паўстанцаў беларускі селянін паказвае перад усім сьветам свой гэроічны дух, які прыродным інстынктам выкліканы на абарону сваіх чалавечых праў і выклікае зьдзіўленьне нават у ворагаў.

Народ, які здолен пры такіх няўдзячных варунках барацьбы трымаць у страху організаванае варожае войска, патрапіць стварыць сабе багатую будучыну, калі яго энэргія будзе выкарыстана для творчага экономічнага і культурнага будаўніцтва краю.

Мы ў гэта верым!

# ЛІТАРАТУРНЫ АДДЗЕЛ

## Вясновая песьня.

Гляну праз акенца
Я на прыгуменца.
Гляну у прывольле
На шырока поле.
        Вясна-красна на дварэ.
Пад гарой пакатай
**Малады араты.**
Сын сярмяжнай вёскі
Мерна йдзе палоскай.
        Вясна-красна на цварэ.
Малады араты,
З думкаю багатай,
З думкай колектыўнай,
Песьняю разьліўнай.
        Вясна-красна на дварэ.
Гэй, буланы конік!
Заіржы сягоньня,
Будзь вясны вясёлкай
Ў полі на пасёлку.
        Вясна-красна на дварэ.
Узару, пасею,
Да й забарану́ю.
Буйнае насеньне
Хай расьце, красуе.
        Вясна-красна на дварэ.
Няхай наша песьня
Коціцца прадвесьнем,
Новым адгалоскам
Над кужэльнай вёскай
        Вясна-красна на ўвесь сьвет.
Песьня адгукнецца
У цішы даліны,
На грудзях краіны
Морам разальлецца
        Вясна-красна на ўвесь сьвет.
Гляну праз акенца
Я на прыгуменца
І пайду ў прывольле,
Дзе калосіць воля.
        Вясна-красна на ўвесь сьвет.

*Паўлюк Трус.*

## Папоўскі вялікдзень.

*(Гутарка царкоўнага папячыцеля).*



Я—чалавек, можна сказаць, ня то што вельмі богабаязны, а так сабе. Мой дзед хадзіў часамі ў цэркаў і бацюшку ў руку цалаваў, мой бацька таксама рабіў; ну і я рабіў! Ці тут бог ведае што!?. А тымчасам хлапец мой Паўлюк, ды яшчэ суседнія хлапцы, калі зьбяруцца ў мяне ў хаце ды калі пачнуць гэтыя свае савецкія, значыць, цапстрыкі перагэтае, дык я сабе й думаю:

— Вось каб на вас трасца, канцамолы вы чортавы.

Ды вазьму й ня выцерплю ды скажу:

—Вельмі-ж вы ўжо, трасца вашай мацеры, разумнымі пасталі! Няма на вас чумы якое! Гэта жартачкі!—нічога вам ужо ня трэба: ні папа, ні бога. Няхай на вас халера!..

А яны мне ў адказ толькі зубы выскаляюць.

— Ты,—кажуць,—дзядзька пасвойму, а мы пасвойму.

— Што-ж ты,—думаеш сабе,—з гэтаю заразаю будзеш гаварыць. Няхай з імі добрыя людзі не гавораць.

А я якраз састаяў тады ў царкоўных папячыцелях. Дык раз падзывае гэта мяне к сабе наш бацюшка, айцец Агафангел, ды й кажа мне:

— Так і так, браток Панцялей, ідзе вялікдзень, а ты сам ведаеш нашы цяперашнія справы—полем я не карыстаюся: рабі, кажуць, сам, тады й поле будзе. А што гэта я сам буду рабіць? сам, ведаеш...

— Ведаю,—адказаў я бацюшку.

— Ну дык ты калі ведаеш ды яшчэ раз ты ў царкоўных папячыцелях састаіш, дык і далжон, значыць, у славу божую сабраць вялікоднага для мяне: яец, кілбас, сыраў, масла, усякае іншае штукі. Гэта, значыць, я-ж кажу, у славу божую і ў здароўе наша, а пры абходзе гаспадароў запісвай—хто ня дасьць, таму каробкі не пасьвянчу.

— Добра,—кажу я,—бацюшка, у славу божую і ў здароўе ваша пастараемся.

Пацалаваў гэта я бацюшку ў гэтае, у руку, значыць, ды пашоў. І такая ў мяне вясёласьць зьявілася, проста аж падскочыць захацелася.

Вось, думаю сабе, у славу божую пастарацца прышлося. На сьвятое, значыць, дзела бог спадобіў гэтае й больш нічога. Дзякуй табе, божа, што спадобіў мяне быць царкоўным папячыцелем!..

Гэта-ж, думаю сабе, гонар мне зьбіраць гэтае... На ўсю парафію слава.

Сказаў я аб гэтым жонцы, а яна—ну, добра, кажа, няхай бог памагае.

Адно Паўлюк глянуў на мяне коса ды ўсьміхнуўся.

От каб ты, думаю, ў дурным розуме сьмяяўся, з каго ты падла сьмяешся; няма ўжо ў цябе й да бацькі пашаны.

Так падумаў і вышаў на вуліцу.

А тымчасам хлопцы мае ўсё ў школе нейкія прыстройкі давай прыстрайваць—дошкі з усяе вёскі звалакаюць, рыштункі ўсякія цягаюць...

— Што гэта вы там прыстрайваеце?— пытаюць у іх старыя.

— Гэта мы сваю ўсяночную будзем правіць,—адказваюць ды зубы выскаляюць.

— Каб вам ужо нечага ў грудзях правіла,—думаю я сабе.

Але думаючы і справу раблю. У вялікую пятніцу я ўсю вёску аб'ехаў, назьбіраў усякае штукі цэлы воз ды як гляну, дык мяне аж зайздрасьць узяла—каб, здаецца, хаця з пятую часьць мне як гэта пакінуць—дальбог цэлую вясну не гараваў-бы. Але адагнаў ад сябе грэшную думку, адпусьці божа грэх, падумаў ды й павёз усё бацюшку.

Увашоў у сенцы, ткнуўся ў кухню, аж там падлогу мыюць—нарабілі на мяне крыку і гвалту, каб ня лез на мокрае.

— Ідзі,—кажуць,—гэтым ходам.

Я ў чысты ход кінуўся, бацюшка вышаў ды на мяне коса зірнуў:

— Ня можна,—кажа,—браток, тут пастароньнім хадзіць, тут толькі-што падлогу памылі.

— Ах каб цябе ўжо нечага на сьмерць абмылі,—падумаў я, але тут-жа апомніўся, адпусьці ты божа грэх, што так на бацюшку падумаў.

Пацалаваў я гэта бацюшку ў руку, здаў яму вялікодны воз ды ціханька назад пашоў. А дома Паўлюк і пытае:

— Ну, што, татулька, падзякаваў табе бацюшка за працу?

— Каб гэткую падзяку яму ў жывот,— адказаў я.

А Паўлюк калі зарагоча!..

— Цьфу, каб ты згарэла,—плюнуў я,— прагаварыўся...

* * *

Тымчасам, на вялікдзень хадзіў я на ўсяночную, бо, вядома, царкоўным папячыцелем раз састаіш, то далжон, значыць, бо гэта ўродзе як-бы, значыць, царкоўны чыноўнік. Ну, я, значыць, з царкоўным старастам там сьвечкі прадаваў, ліхтарні запальваў, народ у парадак прыводзіў, калі вельмі к царскім дзьверам напіралі, разганяў хлапчукоў, якія, каб на іх трасца, укралі ў гандляра Ошара восем бочак ад дзёгцю, ды, запаліўшы іх, зрабілі люмінацыю—цэркаўка, значыць, як шкляначка ноччу сьвеціцца, а на зямлі стала—хоць іголкі зьбірай. А тут агонь калі шыбане, дык каб трохі, дык быў-бы амін і цэркаўцы, і ўсяночной, і нават багамольнаму народу, які стаяў наперадзе.




Дык прышлося разганяць. Але чорт ім рады даў-бы, каб ня прыбеглі з школы ды не сказалі, што там антылерыжныя шпіталі адкрываюцца. Дык туды й пажылых часьць паваліла.

— Гэта-ж,—кажуць,—усё твой Паўлюк там арудуе...

— От,—думаю,—прыждаў сынка! Удалося, каб яно зьвялося!..

Ну, тымчасам, бацюшка сьвенцячы каробкі яшчэ па пары яец сабе зграб; цераз мае рукі зноў-жа ўсё гэта праходзіла... А йдучы з усяночнае глядзеў я, як сонца гуляе—глядзеў, глядзеў, аж вочы ўжо пакінулі, а ўсё ня бачу, як сонца гуляе.

— Мусіць грэшны я чалавек,—падумаў я,—калі ня бачу...

* * *

Днём таксама хлопцы нейкі шпітак рабілі. Сабралі народ, настаўнік тлумачыў, што хрыстос не васкрасаў, гэтага ніколі ня было, гэта ўсё выдумка.

— Ну,—думаю я, слухаючы,—гавары, гавары. Бач якім, падла, бязбожным стаў, ужо

яму вялікадня ня трэба! А пасьля як стаў ён даводзіць, чытаць з кніг нейкіх, дык мяне думкі ўзялі: а можа й так, бог яго ведае... Глянуў я назад, аж там бабы ўздыхаюць, божкаюць, канца сьвету баяцца, каб ня было ад гэтакіх настаўнікаў. А іншыя нават і вераць настаўніку, бо галавамі ківаюць, а іншыя пасьміхваюцца. Вядома, што галава— то розум.




Вышаў я са школы, аж бачу—да бацюшкі зьбіраюцца з вялікаднем праздраўляць. Бачу, пашоў з жонкаю хутаранец Ігнат Курмановіч, мельнік Рыгор Курыла, а пасьля пашоў дзяк Анісіфар Кіяцкі; я пастаяў ды й сам пашоў. Увашоў гэта я на кухню, аж чую—госьці недзе ў пакоях талеркамі зьвіняць. Я патупаў каля парогу, пакашляў, аж выходзіць сам бацюшка.

— Хрыстос васкрос, бацюшка!—кажу я.

— Ваісьціну васкрос!—адказвае бацюшка. Ды так і стаім моўчкі.

— Ну,—думаю я,— зараз бацюшка мяне к сталу пазаве, такі-та ж я царкоўны папячыцель ды й зьбіраў усё для бацюшкі к вялікадню.

А бацюшка маўчыць, відаць, гаварыць яму няма чаго. А пасьля й кажа мне:

— Пагода сягоньня вельмі добрая, жаваранкі сьпяваюць...

— І вароны крычаць,—дабавіў я,—гэткае пагоды мала калі было яшчэ ў гэтым годзе.

— І куры вельмі кудахчуць,—яшчэ падбавіў бацюшка. — Ну, я пайду, а то там госьці чакаюць. З прыемнасьцю пагавару з табою ў другі раз.

І пашоў. А мяне як возьме крыўда ды злосьць.

—Вось як ты,—думаю,—на нашага брата глядзіш. Дзе-ж тая твая роўнасьць усіх перад уваскросшым Хрыстом, аб якой ты сягоньня ў царкве тлумачыў?

Пашоў я зноў у школу, паслухаў яшчэ, што гаварылі комсамольцы, ды й пачала ў мяне рабіцца перамена. Папоўскія казкі—адна чмута,—пачала зьяўляцца ў мяне думка...

---

Мой сусед скончыў гэтую гаворку і пачаў напіхаць з капшука ў люльку табаку.

— А цяпер як?—запытаў я ў яго.

— А цяпер ніяк,—адказаў ён.—Якраз у гэтым годзе мяне ня выбралі ў царкоўныя папячыцелі. Дык можа гэта і лепш. Стаў глядзець я на ўсе гэтыя папоўскія вялікадні йначай. Цяпер вось надыходзіць вялікдзень, а я нават і ня рыпаюся. Клопат вялікі? Даволі слухаць папоўскія казкі.

На гэтым мой сусед скончыў сваю гаворку.

Сусед—**Вясёлы.**

## На ўсяночнай.

Вось і поўнач. Граюць пеўні...
Люд у цэркаўцы захроп.
Неўзабаве ў задумленьні
Надышоў кудлаты поп.
У сьвяточным ён адзеньні,
Стаў, навокала зірнуў
І ад палкага натхненьне
На ўсё горла зацягнуў:
— „Пакі! Пакі!
За прысмакі,
Што даюць нам небаракі
Пакуль не здаволімся“.
—„Мірам госпаду памолімся!“
Дзяк тут, доўга не чакаўшы,
Шморгнуў носам, кашлянуў
Ды казьліны тон узяўшы
З папом разам зацягнуў:

— „Госпадзі памілуй!
Памажы нам, мілы,
Вымагаць падаткі,
Есьці векаладкі“...
— „Алялюя! Алялюя!
Хоць уночы не дасплю я,
Будзе масла і сьвініна;
Воймяцца і духа й сына“...
. . . . . . . . . . . .
Годзі, годзі!—кажуць людзі
Строіць кпіны з мужыкоў.
Далей гэтага ня будзе,
Нам ня трэба ўжо папоў!
Без папоўскага дурману
Мы абудзім родны край!
Пойдзем шляхам вызваленьня,
А ты, бацця, прабачай!

*П. Т.*



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ

## Комсамолец—перадавы гаспадар.

За апошні час прымячаецца аслабленьне комсамольскай увагі да практычных запатрабаваньняў свае гаспадаркі. У пагоні за вялікай політыкай на сходах ячэек, як гэта „а міравым цісусьветным“ становішчы, вясковыя комсамольцы забываюцца пра драбніцы свае гаспадаркі, па якіх селянін мерае пашану, уплыў, паказальнасьць комсамольца, як перадавога гаспадара.

Што-ж у большасьці выпадкаў наглядаецца? А вось што: *гаспадаркаю цікавіцца невялікая колькасьць комсамольцаў*, а гэтым самым усе іншыя комсамольцы робяць вялікі праступак перад партыяй і комсамолам, якія выкінулі лёзунг па ажыцьцяўленьню й падняцьцю сельскае гаспадаркі.

*У сельска-гаспадарчых гурткох лічацца ня ўсе комсамольцы*—гэта таксама кепскія адносіны да тых вед, якія можна атрымаць у гуртку, а на сваёй гаспадарцы практычна правесьці ў жыцьцё.

*З агрономамі вельмі мала хто з комсамольцаў у цеснай сувязі.* Парады агронома не ажыцьцяўляюцца, і комсамольцы не зьяўляюцца вялікімі праваднікамі палепшаных форм гаспадараньня.

Вось тры моманты, якія пераконана кажуць аб недахопе комсамольскай работы ў сельска-гаспадарчай галіне.

*Папершае*: трэба добра, пры дапамозе партыйцаў, уявіць значэньне лёзунгу аб падняцьці сельскае гаспадаркі і выявіць, якім-жа шляхам выканаць гэту працу.

*Падругое*: Самому навучыцца азбуцы сельскай гаспадаркі ў с.-г. гурткох моладзі. Кожны вясковы комсамолец, а тым больш самастойны гаспадар павінен быць сябрам сельска-гасп. гуртка.

*Патрэцяе*: наладзіць цесную сувязь з агрономам і пры яго дапамозе, пад яго кіраўніцтвам праводзіць культурнае паляпшэньне свае гаспадаркі.

*Пачацьвертае*: распаўсюджваць культурныя зачаткі ў гаспадарцы сярод усяго сялянства ваколічных вёсак. Трэба навучыцца талкова й зразумела даказаць селяніну карысьць шматпольля, шкоднасьць трохполкі, карысьць ад павялічэньня пасеву кармовых траў і г. д..

*Папятае:* прылажыць свае сілы па гаспадарчаму будаўніцтву вёскі, прыслухоўвацца да голасу ячэек партыі і ЛКСМБ.

Вось неадложныя й самыя вялікія пытаньні сучаснай дзелавой і карыснай працы кожнага вясковага комсамольца.

Мы, зразумела, за тое, каб кожны вясковы комсамолец добра ведаў міжнароднае становішча нашай краіны, але-ж усяму трэба ведаць меру; а зараз склалася такое становішча, што ні таго, ні другога комсамольцы ня ведаюць.

Паказаць прыклад на якой-небудзь грамадзянска-карыснай справе, пацягнуць за сабою ўсю вёску (напрыклад, за атапленьне торпам, за шматпольле, лубін, за барацьбу са шкоднікамі і іншае)—задача больш-менш складаная й цяжкая.

Пяць нашых парад павінен абавязкова праводзіць кожны комсамолец.

Вясна прышла—трэба працаваць.

А. Гаруновіч.

# Па ячэйках Ленінскага комсамолу.

## Нарада сакратароў ячэек ЛКСМБ.

Ня так-то даўно ў м-ку Лагойску адбылася нарада сакратароў вясковых ячэек ЛКСМБ.

З дакладаў з месц выявілася, што ў некаторых ячэйках праца яшчэ не наладжана. Асабліва вялікія недахопы—гэта ў працы сярод дзяўчат і дзяцей-школьнікаў.

Дзякуючы таму, што многія комсамольцы не ўявілі заданьняў Ленінскага комсамолу, сялянства на ячэйкі з такімі комсамольцамі глядзіць, як на нешта кепскае.

Нарада прыняла шмат практычных пастаноў. Нарада ўхваліла організаваць пры ўсіх сельсаветах піонэр. атрады. Можна ўпэўнена сказаць, што сакратары пасьля нарады з бадзёрасьцю возьмуцца за працу й падымуць яе на належную вышыню.

Гуліс.

## Як мы працуем.

*(В. Дзехцяроўка, Заслаўскага раёну).*

Як ні клапаціліся нашы хлопцы аб клюбе й школе (якія згарэлі), але-ж нічога ня вышла. Не хапіла моцы паставіць будыніну. Зьбіраемся зараз у старэнькай, цеснай хатцы селяніна Сазона. К вясьне клюб збудуем абавязкова.

Комсамольцы нашы, як і трэба, за працу бяруцца шчыра. Шкода толькі адно, што інструктар да нас не прыяжджае, і гэта крышку цяжэй для працы.

Організавана ў нас ячэйка МОПР, у якой налічваецца каля 50 сяброў. Выпусьцілі 7 нумароў нашай насьценнай газэты. Часта наладжваем спэктаклі ў клюбах суседніх вёсак.

Каб зараз нам невялічкая падмога як літаратураю, так і па адбудоўцы клюбу, то можна было-б сказаць напэўна, што наша ячэйка стала-б паказальнаю для іншых.

## Латыская ячэйка ЛКСМБ.

Вялікі ўзрост комсамольскіх ячэек у вёсцы знашоў сабе адбітак і сярод іншага жыхарства Беларусі. У Полаччыне латышоў больш, чым у другіх акругах. Комсамольцаў-латышоў таксама не малы лік, але да гэтага часу ня было ніводнай латыскай ячэйкі.

У Вушацкім раёне маецца пасёлак латышоў, які налічвае каля 100 двароў сялян.

6 сакавіка г. г. была організавана ячэйка ЛКСМБ, у склад якой увашлі 6 хлопцаў і 2 дзяўчынкі. Гэтая ячэйка будзе працаваць выключна на латыскай мове.

М. Анісаў.

## Вечар спайкі.

*(Клінецкая яч. ЛКСМБ, Чэрвенскага раёну).*

— Давай, братва, наладзім разам з беспартыйнаю моладзьдзю вечар спайкі!—так сказаў нам сакратар ячэйкі на адным агульным сходзе.

— Давай, давай!..—з радасьцю адгукнуліся іншыя комсамольцы...

І так рашылі.

Аб дню вечара праведала ўся моладзь вёскі, і як толькі пачало крыху цямнець, пачалі зьбірацца ў клюб. За поўгадзіны—повен клюб хлапцоў і дзяўчат вёскі.

Вечар пачалі дакладам на тэму „Сялянская моладзь і ЛКСМБ“.

Прысутныя к дакладу аднесьліся досыць сур'ёзна й слухалі уважліва.

Пасьля дакладу—концэртная частка і ў канцы розныя гульні.

Беспартыйная прысутная моладзь засталася вельмі здаволенай і прасіла паболей такіх вечароў.

Клінецкая комсамолка.

## Частушкі.

Ой там пры даліне
Распускалася каліна.
А я красачкі ірвала
Ды вяночкі завівала;
Як вяночкі завівала—
Песьню голасна сьпявала:

Комсамолец—мілы Ян—
Сёньня сеў на „яраплан“
Ды й ляціць, як тыя гусі,
Па-над вольнай Беларусьсю.

* * *

Многа ноччу ў небе зорак,
месяц ціха там плыве.
„Маладцы Араты“ ўчора
нам прывезьлі ў сельсавет.

Ходзіць курыца ля хаты,
водзіць кураняткі:
Пойдзем, Ганна і Агата,
на політзаняткі.

# ГОРАД.

## Маладыя чырвонаармейцы.

(*Палкавая школа Менскага пяхотнага палка*).

Палкавая школа Менскага пяхотнага палка распачала сваю працу з сьнежня мінулага году.

Курсантамі зьяўляюцца маладыя чырвонаармейцы з 1902 году нараджэньня.

Зараз зьяўляемся акуратнымі падпісчыкамі на часопісь сялянскай моладзі „Маладыя Араты“ і газэту „Чырвоная Зьмена“.

Стараемся купляць комсамольскія кніжкі ў комсамольскі куток, дзе чырвонаармейцы



Чырвонаармейцы вітаюць пераменьніка.

змогуць пазнаёміцца з жыцьцём і задачамі Л. К. С. М. Б.

Кучка курсантаў-комсамольцаў (у] ліку 9 асоб) зразу прынялася за працу сярод чырвонаармейцаў.

На першым сходзе, на якім прысутнічала многа чырвонаармейцаў, нашы комсамольцы парашылі сабраць ад кожнага па 10 к., за якія выпісаць газэты і часопісь комсамольскага выданьня.

Акружкому Комсамолу трэба паклапаціцца аб прымацаваньні да нас больш моцнай гарадзкой ячэйкі, якая-б дапамагла нам у нашай рабоце.

Маеўскі.

## Чацьверты скураны завод.

На 4-ым скураным заводзе працуе 66 рабочых. Завод вырабляе ў месяц 1400 скур. Гэты завод тэхнічна абсталёван лепш за іншыя скураныя заводы м. Менску.

У 1924 г. на заводзе, ад невядомай прычыны, здарыўся пажар, які прыпыніў работу на 5 тыдняў і прынёс на 800 руб. шкоды. У сучасны момачт завод адбудован і пашыран.

Рабочыя к заводу адносяцца з пашанаю. Асабліва гэта можна было бачыць у часе пажару, калі, ратуючы завод, многія рабочыя атрымалі вялікую шкоду для здароўя.

Аддзельнага завкому на заводзе няма. Супольны завком 4-ох заводаў вядзе працу і на гэтым заводзе. Рабочыя прымаюць вялікі удзел у працы як завкому, таксама і комісіі па вытворчасьці.



Барабаннае аддзяленьне 4-га скуранога заводу.

Пры клюбе імя *Караленкі* самі рабочыя збудавалі чырвоны куток, у якім пасьля працы за чыткаю кніжак і газэт сядзяць дзесяткі рабочых з сваімі жонкамі.

Хоць школка і кепска абсталявана, але-ж справа ліквідацыі няпісьменнасьці з посьпехам ідзе наперад. Некалькі разоў тых, хто перашкаджаў у гэтай працы, рабочыя садзілі пад завадзкі калпак у сваёй насьценнай газэце, і з кожнаю заметкаю справа паляпшалася.

У цяперашні час, дзякуючы недахопу грашовых сродкаў, патрабуецца вялікая энэргія й зацікаўленасьць саміх рабочых у справе вытворчасьці. Часта зарплата выплачваецца несваечасова, а інтарэсы дзяржавы патрабуюць падняцьця вытворчасьці працы і гэтым зьменшыць цану на тавары; рабочыя выявілі паўнейшую зацікаўленасьць у вытворчасьці, прымаюць удзел у пераглядзе норм вырабнасьці, штату і зьніжэньня накладных выдаткаў. Можна сказаць з упэўненасьцю, што аздараўленьне прамысловасьці, распачатае самімі рабочымі, з посьпехам будзе даведзена да канца Толькі ня трэба сунімацца на поўшляху.

**Скурнік.**

## Бацькава радасьць.

Гэй, шыпі, сьпявай, машына!
Весялей гудзі, кацёл!
Сёньня сьвята, сьвята сына—
залічыўся ў комсамол!

Сёньня сходка фаб'ячэйкі,
хлопцы—проста ў іх агні.
Эх, сталёвая жалейка,
маёй радасьцю зьвіні!

У віхуры, ў завірусе
ды фабрычнага жыцьця
комсамольцам Беларусі
стала роднае дзіця.

І на фабрыцы рухомы
малады мой качагар
выбран членам фабзавкому,—
весяліся ў домне жар!

Бацьку-ж—радасьці хвіліна,
ў сэрцы шчасьця сытны стол.
Гэй, шыпі, сьпявай, машына,
Ў тваіх сьпевах—комсамол!

**А. Александровіч.**



# Барацьба за новую вёску.

## „Дзень лесу“.

Лес кудравіць, лес гамоніць,
Ад пажару лес—завеса.
Запішуся я сягоньня
Ды у „Прыяцелі лесу“.

Усім даўно вядома, якую карысьць даюць нашы лясы.

Але ня ўсякі ведае, што яны патрабуюць шчырага дагляду.

Кожны стары чалавек скажа вам, што нават на іх памяці раней было шмат больш лясоў, чымся маецца і ёсьць іх цяпер. Чаму гэта так? А гэта галоўным чынам таму, што, як ужо сказана, ня ўмеюць добра карыстацца лесам. Старая прывычка, нядбаласьць цалкам засталіся і цяпер.

Падумаўшы, кожны скажа, што пры гэткай нядбаласьці ад лясоў у нас у хуткім часе амаль-што нічога не застанецца.

Як цяпер лясы сталі агульна-грамадзянскай маемасьцю, дык ясна, што перад савецкай уладай стала задача зьнішчыць старую прывычку нядбаласьці да лесу і замест гэтага *навучыць цаніць, шанаваць лес* і правільна, умела ім карыстацца. Як рашыць гэткую вялікую задачу? Галоўным чынам культурнай працай. У гэтай культурнай працы вялікую дапамогу павінен прарабіць „Дзень лесу“. У гэты дзень уся наша увага—аб лесе.

У дзень лесу мы павінны як толькі мага дапамагчы ажыцьцявіць тое заданьне, якое перад сабой ставіць гэты дзень. А дапамагчы ёсьць дзе, бо значная частка абшараў нашых лясоў—адны пні да пустэчы.

У „Дзень лесу“, у гэтае агульна-грамадзянскае сьвята, павінны навучыцца цаніць ня толькі лес, а й кожнае дрэва, кожны кусточак, павінны навучыцца ня толькі дапамагаць лесу, а й абсаджваць дрэвамі нашы шляхі, хаты, грамадзянскія месцы, школы, разводзіць сады і г. д.

У наш „Дзень лесу“ мы павінны пастаўленыя ім лёзунгі зьдзейсьніць. Як у горадзе, так і ў вёсцы і па ўсяму абшару нашай Беларусі шмат ёсьць такіх мясьцін, дзе дрэва неабходна.

Нашы вёскі і гарады маюць ня зусім добры краявід і галоўным чынам ад таго, што маюць мала зеляніны. Дрэва ня толькі дае карысьць чалавеку, а служыць і добрай аздобай.

У „Дзень лесу“ наша моладзь найбольш павінна рыхтавацца да барацьбы з зьнішчэньнем бярозак на „сёмуху“, елак на калядьі і г. д. У гэтыя папоўскія сьвяты губляецца шмат мільёнаў маладых дрэвак, а замест іх ніводнага дрэва ніхто не пасадзіць.

У „Дзень лесу“ замест гэткага зьнішчэньня лесу кожны малады хлопец, маладая дзяўчынка павінны рупіцца пасадзіць некалькі дрэў.

Няхай растуць разам.

У некаторых ёсьць такі звычай, што як родзіцца дзіця, то разам саджаецца адно ці некалькі дрэў, якія і растуць з дзіцём. Як дрэва засохне часам, то на места яго саджаецца другое.

У „Дзень лесу“ трэба, каб наша моладзь прывучылася любіць лес, цаніць яго і берагчы. А гэтага можна будзе дабіцца толькі тады, калі ўся моладзь будзе прымаць удзел у „Дзень лесу“.

У „Дзень лесу“ павінны аб'яднацца ўсе прыхільнікі да лесу і да дрэва.

У тых мясцох, дзе шмат моладзі, у гэты дзень можна організоўваць ячэйкі таварыства *„прыяцеляў лесу“*; задачай гэтых ячэек будуць апрача „Дня лесу“ прымаць удзел у барацьбе за лес штодзённа.

„Дзень лесу“ павінен стаць днём організацый таварастваў „прыяцеляў лесу“.

Усе за працу! Дружнай працай мы дапаможам у справе адраджэньня і аховы нашага лесу!

**Міхась Дзівак.**

## Чаму мы пераходзім на шматпольле.

Большасьць сялянскіх гаспадарак усяго патроху мае: і пасевы хлеба, і карову, і сьвіньню, і хатнюю птушку, а ў некаторых і садок, хоць невялікі, маецца, а аб агародзе й гутарыць ня прыходзіцца. Усяго пакрысе, што патрабуе заботы, працы й раструты.

Калі казаць аб звычайнай у нас гаспадарцы, то патрэбна прызнаць, што самым галоўным заняткам у ёй—гэта дабываньне збожжа. А таму на першым месцы розных гаспадарчых рахункаў павінна стаяць паляводзтва. Ад таго, як пабудована паляводзтва, залежыць і тое, колькі можна трымаць жывёлы.

Для таго, каб задаволіць усе патрэбы як сям'і, а таксама й жывёлы, трэба падлічыць усё сваё багацьце.

Дзякуючы таму, што пашня зьяўляецца асноўным фундамантам сялянскай гаспадаркі, трэба неабходна і як найхутчэй увесьці правільны севазварот.

У ранейшыя часы, калі зямлі было шмат, а людзей мала, калі вялікая плошча зямлі

была пад лясамі, селянін разрабляў кавалак зямлі й сеяў на ім датуль, пакуль перастане на ім радзіць, а тады пераходзіў на другі кавалак і г. д. З прыростам насельніцтва той самы земляроб частку свае зямлі пачаў пакідаць на год „для адпачынку“, пасьля гэтага клаў угнаеньне й сеяў жыта ці пшаніцу, а пасьля гэтага збожжа на другі год сеяў авёс, ячмень, гарох і інш., а затым ужо зноў зямлю пакідаў пад папар. Такім чынам і адбудавалася трохпалёўка: папар, жыта і ярына. Трохпалёўка да сучаснага моманту ў нас у Беларусі была самая распаўсюджаная, і толькі зараз некаторыя перадавыя вёскі *пачалі пераходзіць на шматпольле.*

У сучасны момант шляхам вопытаў і практыкі земляробы ўпэўніліся, што пшаніца пасьля пшаніцы, жыта пасьля жыта растуць кепска, у той час, калі-б іх селянін засяваў пасьля канюшыны, гароху ці вікі. Таксама гарох пасьля гароху будзе горшы, чым пасьля якой-небудзь другой культуры.

Усё гэта залежыць ад таго, што розныя расьліны бяруць розную яду з глебы і што гэта яда знаходзіцца там у акрэсьленай колькасьці.

Адсюль правіла: *жадаючы мець карысьць з глебы—неабходна чаргаваньне пасеву:* зернятавыя, потым канюшыну, караньплоды, яравыя пасевы і інш.

Дзякуючы ўсяму гэтаму вучоныя сталі адшукваць тых разумных чаргаваньняў пасеву расьлін, якія будуць прыносіць карысьць глебе.

Аднак без папару, у нашых умовах, не абайсьціся. Папар—гэта адбудоўка пахаці. Пры дапамозе папару глеба ачышчаецца ад сарнякоў, мякчэе й робіцца годнаю для пасеву.

Каб поле не змарнаваць, а наадварот — павялічыць яго сілы, патрэбна ня сеяць аднаго збожжа на адным месцы шмат разоў. Усё гэта патрабуе севазвароту. Наогул, само жыцьцё вымагае перайсьці ад трохпалёўкі да шматпольля.

Сказаць, на колькі палёў разьбіць ворную зямлю, чым і ў якім парадку засяваць для ўсіх гаспадарак—нельга. Можна завесьці севазварот і ў 4, у 5, і ў 6, і ў 7, у 8 і больш таго палёў. Каштоўна толькі тое, каб селянін пры састаўленьні севазвароту не забыўся пра наступныя ўразуменьні: 1) каб пасьля гною сеяць тую культуру, якая лепш за ўсё яго скарыстае, 2) каб у севазвароце было досыць клубня-караньплодаў для жывёлы, 3) у пэрыяд між двух зернавых расьлін сеяць тую расьліну, якая добра зацяне глебу, як, напрыклад—канюшына, бабовыя расьліны і 4) зёрны павінны адпавядаць глебе й клімату.

У такіх выпадках лепш за ўсё зьвяртацца да агронома, які пастараецца даць правільны севазварот.

**Даведчык.**

## На шматпольле!



Беларускі гаспадар-земляроб.

На шматпольле ідзі, селянін,
Сьмела,—
Адважным крокам,
Сьмялей!
Ты не адзін!
Сьмялей
Прад трохполкавым зрокам!
Ты сьмела ідзі,
Бо ты не адзін,
Весялей запяе тваё поле.
Трохполку пакінь,
Працаўнік-селянін,
Сьмялей пераходзь
На шматпольле!

**Я. Будзька.**

## Організавалася ячэйка КСМ—вёска стала іншаю.

(*Зацітава-Слабадзкая ячэйка ЛКСМБ, Пухавіцкага раёну*).

Наша вёска—ранейшы самы цёмны куток усяго раёну. Тут апрача „напіцца самагону ды пабіцца з Лявонам“—больш ніхто нічога ня ведаў. Гэта было раней, а зараз у нашай вёсцы ёсьць комсамольская ячэйка—сьветач вёскі, якая розныя нядобрыя пагулянкі й выпіўкі замяніла хатай-чытальняй, клюбамі, спэктаклямі. У вольны час уся моладзь, нават і сяляне, сядзяць за кніжкаю й газэтаю. Сяляне здаволены сваімі дзяцьмі-комсамольцамі—будаўнікамі новай вёскі.

Хлопец.

## Комсамольцы збудавалі хату беднай сялянцы.

(*В. Гарадзецкая, Самахвалаўскі раён*).

Калі вышлі нашы сяляне на хутарскае расьсяленьне, беднай удаве гэтай вёскі Якусавай ня было каму пабудаваць хату.

У каго з сялян яна ні прасіла, усе ёй адно адказвалі: „часу няма“, а адзін кулак дык вось што параіў: „Прадай карову, наймі за гэтыя грошы работнікаў і пабудуй сабе хату“.

Бедная ўдава загаласіла й заплакала ад такой парады.

У вольны час сабраліся нашы комсамольцы разам з вясковаю моладзьдзю, пашлі з песьнямі і пастроілі бабе хату.

Комсамолец Чарнякоў.

## Сельска-гаспадарчая дружына.

(*В. Доўгавічы, Расьнянскага раёну*).

У нашай вёсцы комсамольская ячэйка з вясковаю моладзьдзю організавала с.-г. дружыну.

Ня было ў школе рэзаных дроў. Дружына вышла з сваімі сякерамі й пілкамі і нарэзала дроў. Паламаўся на канаве мост, праз які нельга было ні хадзіць, ні езьдзіць; сельска-гаспадарчая дружына наладзіла суботнік і пастроіла мост.

Сяляне палюбілі гэту дружыну й запісваюцца ў сябры яе.

С. Апанасаў.

## Прэч няпісьменнасьць.

(*В. Сяргеевічы, Шацкі раён*).

Шмат няпісьменных у нашай вёсцы, асабліва дзяўчат. У гэтым годзе заснавалася ячэйка „Прэч няпісьменнасьць“, якая організавала некалькі лікпунктаў. Першымі пачалі запісвацца дзяўчаты. Зараз у нас на лікпунктах 34 дзяўчыны і 1 хлапец.

Асабліва лікпунктамі цікавяцца дзяўчаты, бо там апрача ліквідацыі няпісьменнасьці настаўніца вучыць і розным ручным працам.

Цяпер ужо спынены прыём, бо шмат каго нельга абучыць.

Перад лікпунтамі стаіць пытаньне—здабыць швальную машыну, каб у вольны час навучыцца шыць.

Надзеі на гэта ёсьць.

Юрка.

# Лявоніха.

Ой ды што-ж там за Лявоніха была,
Што Лявону супакою не дала?
Чуць кабета не даходзіць да плачу—
Кажа: „Выпісаць часопісь я хачу“.
Ой ды што-ж там за Лявончык быў,
Што Лявоніху за гэта не набіў;
Выняў зараз ён з кішэні паўрубель;
„На, Лявоніха, выпісывай сабе“.
Ой, Лявоніха, ды як цябе зваць,
Што ня ўмееш ты капусты саджаць?
Бо ні разу яна добрай ня была,
У ёй заводзіцца капусная кіла*).
Ня смуткуй-жа ты, Лявоніха, ня плач,
Але зьбегай к агроному як бач,—
Дапаможа ён парадамі,
Як вясьці дагляд за градамі.

Ой ды што-ж там за дзівак за Лявон?
Канюшыны цэлы клін сее ён;
У Лявона сыты конь, як мянтуз,
На ім едзе той Лявон, так як туз.
А у нашага Сымоніка
Дык панёс-бы бусел коніка,
Ледзь ён ходзіць з вострай сьпінаю,
Бо ня кормяць канюшынаю.
Ой ды што-ж там за Лявон з-за ракі,
Што на полі сее ён буракі?
Абзавёўся ўжо жывёлаю,
Параўняўся ўжо з Міколаю.
Дык ня будзем-жа варонамі,
Папярэдзім і Лявона мы
І на лета, так як лёдам мы,
Склеп завалім кораньплодамі.

Крапіва.

*) Заразьлівая капусная хвароба.

## Вясковыя частушкі.

Сонца грэе, ветрык вее,
Косіць поплаву Якім.
Я, Мар'яна, заўтра рана
Запішуся ў „Дабрахім“.

* * *

Косіць поплаву Якім,
На грудзях красуе КІМ.
А я, Ганна, пастаянна
Буду сябрам „Дабрахім“.

* * *

Параход, параход,
Галубое мора.
У сябры „Дабрафлёт“
Запісаўся ўчора.

## Моладзь стаіць за пасёлкі.

(*В. Жораўка, Съмілавіцкі раён*).

Яшчэ гады два таму назад кучка жораўскіх сялян прагла на пасёлкі: шмат сходаў сабіралі, пратаколы пісалі, але ўсё гэта і засталося ў пратаколах ды на розных паперках.

Вясною гэтага году наша моладзь і некаторае сялянства рашуча ўзялося за справу расьсяленьня на пасёлкі і разам з тым за шматпольле. Сходы, на якіх стаялі гэтыя пытаньні, былі досыць бурныя. Аднаго разу некалькі баб-жонак больш заможных гаспадароў хацелі выхапіць паперы ў каморніка ды парваць; вядома, да гэтага не дапусьцілі больш сьвядомыя сяляне і прысутная там моладзь.

Зараз ужо ўсё вырашана. Сялянства рыхтуецца, зьбірае сілы, каб пасьля падзелу зямлі зразу-ж пераехаць на пасёлкі.

Каморнікі разьбіваюць усю зямлю жораўскіх сялян на сем пасёлкаў.

Гучок.

## Першы сход дзяўчат.

(*В. Цытва, Шацкага раёну, Менщчына*).

Нядаўна ў нас адбыўся першы сход дзяўчат-сялянак, на якім прысутнічалі раённы арганізатар Комсамолу і інструктар Менскага Акруговага Комітэту КСМ. Былі зроблены даклады: „Дзяўчына і ЛКСМ“ і „Вынікі першай жаночай конфэрэнцыі“.

Сход прашоў вельмі цікава. На ім прысутнічала больш як 40 вясковых дзяўчат і некалькі старых сялянак.

У канцы ўхвалілі такую пастанову: запісацца ўсім у гуртві, якія існуюць пры ячэйцы Комсамолу, каб гэтым зьнішчыць сваю няпісьменнасьць.

Многія ўжо запісаліся.

Гарэльчык П.

## Вялікоднае...

За узгоркам за пакатым
роднае мястэчка.
Атрымалі мы „Араты“
ды замест яечка.

То ня Юр'я ў полі ходзіць,
землю адмыкае;
на шматпольле сельсавет
поле разьбівае.

Воскраў шмат год хрыстос
і ні разу не ўваскрос.
А наш Юрка уваскрос,
бо адкінут „трохпалос“...

Араплян ў гары бурчыць,
як віхура ў лесе.
Дзяк угледзеў і крычыць:
—Ой, Хрыстос васкрэсе!



Плыві, плыві, наш самалёт,
вышэй, вышэй што-год!

# Насьценная газэта ў вёсцы.

*(Глядзі № 1).*

### Аб працы рэдакцыйнай колегіі.

Бескарысна перадаваць рэдагаваньне газэты адной асобе; лепш, каб над ёй працаваў колектыў. Галоўным рэдактарам павінен быць адзін таварыш, але праца павінна быць падзелена паміж усімі сябрамі рэдакцыйнай колегіі. Адзін павінен клапаціца аб тым, каб прыцягнуць сьценкораў, другі—апрацоўваць матар'ял—корэспондэнцыі, трэці—выпушчаць газэту і г. д. Наогул, патрэбна правесьці сталы падзел працы.

У склад рэдакцыйнай колегіі могуць увайсьці: прадстаўнік ячэйкі, селькоры, перадавыя сяляне, настаўнік, агроном, фэльчар і г. д.

*Чым павінна займацца рэдакцыйная колегія?* Перш за ўсё адборам матар'ялу.

Калі ёсьць шмат матар'ялу, тады газэту можна выпушчаць часьцей. Калі бываюць такія допісы, з якімі рэдколегія ня згодна, тут так трэба зрабіць: зьмясьціць гэты допіс, дадаўшы належныя увагі рэдакцыі.

*Насьценная газэта павіна будавацца на тэй мове, на якой гутарыць мясцовае насельніцтва.* З гэтае прычыны ня трэба ганяцца за літаратурнай, граматычнай правідловасьцю мовы. Неабходна аслабаняцца ад чужаземных незразумелых слоў, якіх у нашых сьценгазэтах аж зашмат.

Адна з важных прац рэдколегіі зьяўляецца вярбоўка корэспондэнтаў. Патрэбна прымяніць мэтод уцягненьня „вусных" корэспондэнтаў. Напрыклад, прыходзіць селянін і расказвае які-небудзь выпадак, якога ён сам вылажыць на паперу ня ўмее; у гэтым выпадку хто-небудзь з рэдакцыйнай колегіі яму дапамагае, запісвае яго паведамленьне. Калі ў сельрадзе адбываецца якая-небудзь зьява або выпадак, які цікавіць усіх, і аб гэтым больш усяго ведае, напрыклад, старшыня Р. В. К. ці загадчык коопэратыву, то з ім можна пагутарыць, каб даведацца добра аб здарыўшымся і напісаць у газэце (напр., аб атрыманьні насеньня, канюшыны, крэдыту і г. д.), інакш кажучы, практыкаваць мэтод размоў, які практыкуецца нашымі друкарскімі газэтамі.

Лепш выпушчаць газэту меншага разьмеру, але выпушчаць яе часьцей. Калі насьценная газэта выходзіць раз у паўтара-два месяцы, ці ня мае пэўнага тэрміну выхаду, то гэта нікуды ня варта. Усе чытачы павінны ведаць, што газэта выходзіць акуратна, у акрэсьлены час, і тады будуць прыходзіць яе чытаць. Лепш выпушчаць газэту раз у дзьве нядзелі.

Калі селянін пакажа некаторыя недахваты, на некаторыя абмылкі ў працы, то патрэбна дабівацца, каб гэтыя недахопы, абмылкі зьнішчыць.

### Тэхніка газэты.

Для таго, каб газэта змагла прыцягнуць да сябе чытача, неабходна ажывіць яе малюнкамі. Аднак, пры гэтым, трэба захаваць нейкую мерку, займаць малюнкамі ня больш трэцяй часткі ўсяе газэты. Матар'ялы патрэбна разьмяшчаць у пэўным парадку, ня зьбіваць яго ў кучу. Кожны аддзел павінен мець буйны загаловак.

Малюнкі можна атрымаць шляхам выразак з розных журналаў і рознаколернай паперы і г. д.

Формат газэты павінен быць такім, каб чытачу ня трэба было шмат нагінацца й задзіраць галаву, каб пачытаць. Яна павінна быць нізкаю (прыблізна $1^1/_2$ аршына), і шырокаю на бакі. Пісаць трэба так, каб паміж строчак былі прамежкі. Калі газэта пішацца рукамі, то лепш за ўсё пісаць друкарскімі літарамі.

Пажадана пісаць заметкі на лістках паперы аднолькавай шырыні, якія потым наклейваюцца на вялікі ліст паперы.

Лепшы матар'ял трэба зьмясьціць на больш відным месцы, каб ён кідаўся ў вочы.

Газэта вывешваецца на фанэры ці на драўлянай дошцы, да якой прымацоўваецца цьвічкамі ці кнопкамі гатовы матар'ял. Пры такіх умовах сьценгазэту можна здымаць, схінаць харашэнька і пасылаць у рэдакцыю „Маладыя Араты" для перагляду і одзыву.

### На якой мове павінна выдавацца насьценная газэта?

Мы пісалі і раней, што мова павінна быць блізкая, зразумелая селяніну, беларускай вёсцы—патрэбна газэта на беларускай мове, а калі газэта выдаецца ў жыдоўскім ці польскім сельсавеце, то яна павінна пісацца на іх-жа мове.

---

У 3 № „Маладыя Араты" мы дадзем узор прыкладнай насьценнай газэты.

# Адгадай.

### Задача літар № 1

(у форме крыжыка) П. Герман.



Дадзены літары:
8-а, 2-в, 1-г, 3-е, 1-з, 3-к, 4-л, 1-м, 1-н, 1-о, 3-р, 1-с, 2-т, 1-у, 1-ц, 2-ч, 2-ы, 2-ь, 1-э, 1-я.

Гэтыя літары трэба расставіць у квадратах крыжыка так, каб атрымаць восем слоў, маючых значэньне: 1-е слова азначае дзікача зьвера, 2-е—назва жанчыны, 3-яе—хатняя рэч, 4-ае—спаткаеш на вёсцы, 5-ае—мо і ў самога бывае, 6-ае—знойдзеш у вершы, 7-я—назва жанчыны (другая), 8-ае—прыналежнасьць аптэкі.

### Задачка слупкоў № 1 (дзядзькі Міхалкі).

Перастаівіць слупкі так, каб можна было прачытаць, вядомы сказ.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | і | е | н | н | л |
| е | р | м | л | ё | а |
| м | і | і | з | н | н |
| ь | е | ы | ц | в | ж |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |

(Пераварачваць слупкоў ня трэба).

### Задачка літар № 1.

(у форме трохкутніка) П. Герман.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| а | а | а | а | а | а |
| дз | е | е | к | л | |
| м | м | н | н | | |
| н | н | у | | | |
| у | ь | | | | |
| ь | | | | | |

Дадзеныя літары трэба разьмеркаваць так, каб зьверху ўніз, справа налева можна было прачытаць аднальковыя словы.




Рэбус.

### Загадка.

У Менску ня быў,
з Чарвяковым не гаварыў,
а ўсё ведаю.

Чытаў „Малады Араты“.

У чарговым 3 нумары будуць друкавацца прысланыя таварышамі адказы.

## Паштовая скрынка.

**Комсамольцу - прысутнаму** (*Магілеўшчына*). „Цяпер гуляй, хлопцы, а дзяўчаты працуй на слаўным пасту“—друкавацца ня будзе. Пішы яшчэ. Старайся даць больш фактаў аб працы комсамольцаў у грамадзянскіх установах.

**Бразгоўку В.** Друкаваць пратаколы ня варта. Куды лепш было-б, каб ты напісаў нам аб тым, што добрага зрабіў у вас шэф, як сялянства глядзіць на гэту працу і іншае.

**Тутэйшаму** (*Замагільна*). Дробязь. Друкавацца ня будзе. Пішы нам, які удзел прымаюць комсамольцы ў барацьбе за новую вёску. Калі ёсьць комсамольцы-гаспадары, то як яны вядуць сваю гаспадарку; што новага ў іх гаспадарках.

**Селькору Саўку** (*Роўнапольле*). Верш твой слабенькі, да друку не падходзе. Чытай творы маладнякоўцаў, па якіх ты можаш навучыцца, як пісаць і аб чым пісаць.

**Селяніну** (*Цараўскі с. с.*). Аб гэтым напішы ў сваю насьценную газэту. Пішы нам таксама аб жыцьці і працы ячэйкі, што новага ў вёсцы і г. д.

**Прыцінскаму** (*Віцебск*). Пра „*Маладняк*“ організацыю беларускіх поэтаў дадзем у трэцім нумары „Маладога Аратага“.

Рэдактары: Гаруновіч. Александровіч.

1-я Дзяр. друк. Зак. № 2781—4000

Галоўлітбел № 8758.

## ЗЬМЕСТ.







